*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**№ 148 (500)**

Серада, 19 жніўня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



## Андрей Санников встретился с Андерсом Джонссоном



По поручению Верховного Совета Беларуси координатор по международным связям Хартии-97 Андрей Санников встретился в Женеве с Генеральным секретарем Межпарламентского союза (МПС) Андерсом Джонссоном, который был избран на эту должность Советом МПС в июле 1998 года.

В ходе беседы была подробно обсуждена ситуация в Беларуси, сложившаяся после референдума 1996 года. Как известно, членство в Межпарламентском союзе, следующая сессия которого состоится 6—12 сентября в Москве, получила делегация так называемого национального собрания, что связано прежде всего с внутренним регламентом Союза.

А.Санников передал Генеральному секретарю подготовленные пресс-центром Хартии-97 материалы о положении в республике и о нарушении белорусскими властями прав человека.

**Пресс-центр Хартии-97.**

**Резонанс на "Рэзананс"**

## Александр Зимовский убеждает главу государства в безоговорочной его победе на президентских выборах 1999 года

Ведущий "Рэзананса" продолжает готовить общественное мнение к президентским выборам. Ведь до конца пятилетнего срока полномочий первого президента остается 335 дней. Очередной воскресный "Рэзананс" был посвящен поездкам главы государства по тем районным центрам, в которых на предыдущих президентских выборах победили противники Александра Лукашенко. В частности, в Браславе, Витебской области. Там, как известно, в 1994 году лидировал Зенон Позняк.

Президентский глашатай убеждал Александра Григорьевича с экрана телевизора в том, что теперь политическая ориентация браславчан изменилась. Благодаря целенаправленной деятельности местной "вертикали" избиратели района уверены в устойчивости и легитимности (законности) режима. Александр Зимовский, похоже, рассчитывает, что после серии подобных "Рэзанансаў" президент сделает вывод о невозможности для оппозиции победить на выборах 1999 года. Для подтверждения этой мысли ведущий приводил цитаты из "секретных" документов ОГП и её заграничных хозяев.

Запад, мол, тратит громадные деньги, чтобы заставить оппозицию пойти на выборы, а все 30 оппозиционных белорусских партий как черт ладана боятся избирательной кампании, до начала которой, в соответствии с Конституцией Республики Беларусь 1994 года, остается всего 185 дней.

Получаемые из-за границы доллары расходуются, по мнению А.Зимовского, не по назначению — используются лишь на зарплату партийного руководства, что было подтверждено им конкретными цифрами из Гомеля. В доказательство якобы полной недееспособности Объединенной гражданской партии Александр Леонидович поведал о неудачной попытке белорусского телевидения заснять заявленный этой партией пикет в столичном микрорайоне Чижовка.

Кстати, белорусское телевидение, "развращенное" материалами, поставляемыми МВД и КГБ, само заснять актуальные репортажи не в состоянии. Александр Зимовский с горечью вынужден был признать неспособность БТ выполнить даже такое элементарное задание, как репортаж со съезда белорусов Балтии.

Интересно, а прогнозы свои телеведущий "Рэзананса" делает сам или тоже лишь озвучивает изготовленные в КГБ?

**Никита ПИГУЛЬ.**

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА,*
*доктар эканамічных навук, прафесар*

## Ці будуць дажынкі вясёлымі?



### Эканоміка жніва

Патрабаванні прэзідэнта на селектарнай нарадзе перад пачаткам жніва забяспечыць штодзённа ўборку 5 працэнтаў збожжавага поля грунтаваліся на тым, што вёсцы, маўляў, аказана вялікая матэрыяльная і фінансавая дапамога. З пачатку года і да першых дзён жніва сельскай гападарцы былі выдзелены крэдыты і субсідыі на суму 10 трыльёнаў рублёў. Праўда, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не ўлічвае таго, што гэтыя грошы толькі кампенсуюць абмежаванні цэн на закупляемую ў калгасах і саўгасах прадукцыю, падштурхоўваючы яе тым самым на знешні рынак. Плюс да гэтага напачатку жніва з дапамогай дзяржавы гаспадаркам пастаўлена 450 новых камбайнаў. Як і ў мінулыя гады, прадастаўлены таварны крэдыт: 200 тысяч тон паліва з дзяржаўнага рэзерву.

Рэсурсы, як бачым, немалыя, але недастатковыя. Што значаць 450 камбайнаў на дзве з паловай тысячы гаспадарак, на пяць гаспадарак адзін новы камбайн? У Магілёўскай вобласці, напрыклад, трэба ўбраць 420 тысяч гектараў зерневых. Для гэтага маецца 3334 камбайны. Кожны дзесяты з іх, можна сказаць, непрыдатны да жніва наогул. Нагрузка на адзін камбайн складае аж 140 гектараў. Не лепшая сітуацыя і ў іншых абласцях. Дык ці можна нават пры нармальным надвор'і, не гаворачы ўжо пра сёлетняе, своечасова і без страт убраць вырашчаны ўраджай?

Апроч гэтага, нягледзячы на агромністыя высілкі адміністрацыі, нельга лічыць, што поўнасцю вырашана праблема з палівам. Па інфармацыі намесніка старшыні Магілёўскага аблсельгасхарча Аляксандра Лагутова, на перыяд жніва гаспадаркам вобласці патрэбна 36 тысяч тон дызельнага паліва і 65 тысяч тон бензіну. І калі з "саляркай асаблівых праблем няма, то патрэба ў бензіне адчуваецца і зараз. І пакуль што ўсе намаганні ў вырашэнні гэтага пытання поспеху не маюць". Напружанне з палівам, між іншым, узмацняецца тым, што сырая глеба абумоўлівае перавыдаткаванне паліва: тэхніка буксуе.

Заклік прэзідэнта на селектарнай нарадзе, каб уборкай ураджаю было занята ўсё, што рухаецца і поўзае, прадыктаваны імкненнем сабраць як болей збожжа, бо, як выказалася адна рэспубліканская газета, "чым меней хлеба, тым болей у ім палітыкі".

Але ўзнікае пытанне, якім коштам будзе ўбраны ўраджай, калі, па даных Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, толькі на запчасткі і рамонт старых камбайнаў ужо затрачана 1,3 трыльёна рублёў. За гэтыя грошы можна было купіць 130 новых камбайнаў. Да таго ж выдаткі на бягучы рамонт у ходзе жніва не скарачаюцца.

Агромністыя выдаткі на жніве — з-за дрэннага надвор'я, а таксама з-за таго, што рэсурсы перадаюцца не ў прыватныя рукі, а ў грамадскі сектар, не забяспечваюць запланаваныя тэмпы ўборкі. Складваецца сітуацыя, што ўбраць ураджай да першага верасня і ў Нясвіжы справіць вясёлыя дажынкі наўрад ці ўдасца.

Па меры зацягвання тэрмінаў уборкі па розных прычынах зніжаецца збор зерня з адзінкі плошчы. Застаецца мала надзеі, што ў гэтым годзе сабяруць хоць бы такі ўраджай, як у мінулым годзе.

Не паскараюць тэмпы ўборкі ўраджаю і адноўленыя савецкія метады кіравання, калі ў вобласці і раёны накіраваны ўпаўнаважаныя прэзідэнта і адміністрацыі. Напрыклад, у Мінскую вобласць, якая адстае са жнівом, накіраваны сам прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, а ў Брэсцкую — галоўны банкір Пётр Пракаповіч. Верталётныя аблёты раёнаў высокім начальствам таксама не даюць рэальнай карысці.

### Сацыяльны аспект сёлетняй "бойкі за ўраджай"

На селектарнай нарадзе перад пачаткам уборкі ўраджаю прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў ад сваіх падначаленых "забяспечыць своечасовую дапамогу працаўнікам сельскагаспадарчай галіны ва ўборцы прысядзібных участкаў, зліквідаваць запазычанасць па заработнай плаце, забяспечыць неабходным таварам кожны сельскі магазін". Патрабаванне, ці, лепей сказаць, заклік сам па сабе правільны, але як ён выконваецца? Натуральна, што на першым плане павінна быць заработная плата, яе своечасовасць і дастатковы ўзровень, каб размовы пра стымуляванне працы на жніве не былі пустым гукам. Аб тым, як плацяць людзям вёскі за іх працу на справе, сведчыць наступны факт. Старшыня абкама прафсаюзаў Мінскага абласнога аграпрамысловага комплексу звярнуўся з пісьмом да міністра сельскай гаспадаркі і харчавання І.Шаколы і да кіраўнікоў аграрнага сектару вобласці з просьбай неадкладна адрэагаваць на крытычную сітуацыю ў сельскай гаспадарцы вобласці з выплатай заработнай платы. Па стане на канец ліпеня, значыць, на пачатак жніва, запазычанасць па заработнай плаце працаўнікам палёў і ферм вобласці дасягнула 288,7 мільярда рублёў, ці амаль 160 працэнтаў месячнага фонду заработнай платы за чэрвень. Тысячы і тысячы сялян не атрымалі грошай за сваю працу яшчэ за люты і сакавік. Амаль такая ж сітуацыя і ў іншых абласцях краіны, бо запазычанасць па зарплаце вяскоўцаў у рэспубліцы ў цэлым дасягнула сёння амаль трыльёна рублёў. Значыць, заплаціць і плаціць людзям застаецца на ўзроўні пажадання. Дзе ж тут матэрыяльнае стымуляванне жніва? Але ў чым жа прычына такой сітуацыі? На сёння такіх прычын дзве. Першая ў тым, што, па словах прэзідэнта, фактычна 67 працэнтаў ураджаю, які трэба ўбраць і прадаць дзяржаве, ужо аплачаны праз авансы. Гэтыя сродкі пайшлі на рамонт тэхнікі, набыццё запчастак, паліва. Другая прычына ў тым, што прэзідэнцкі селектарны наганяй і патрабаванне да кіраўнікоў штодзённа зжынаць не меней 5 працэнтаў збожжавага кліну прывяла да таго, што грошы, якія прызначаны на заробкі, скіроўваюцца на запасныя часткі і паліва, інакш стане тэхніка. Натуральна, што чалавечы фактар у гэтых умовах не можа быць выкарыстаны з поўнай аддачай.

Адмоўна дзейнічае на актывізацыю чалавечага фактару і безнадзейнае чаканне вяскоўцамі дапамогі ад гаспадарак у правядзенні ўборкі збожжавых на прысядзібных участках. Справа ў тым, што атрымаўшы магчымасць расшырыць прысядзібны ўчастак да аднаго гектара ворыва, сяляне да палавіны плошчы адводзяць пад зерневыя і маюць патрэбу ў дапамоге пры ўборцы. Звычайна гаспадаркі дапамагалі вяскоўцам пасля завяршэння жніва на грамадскім полі. Дык няўжо трэба чакаць да пачатку верасня? Убраць зерневыя сяляне ўбяруць: скосяць або сажнуць, але як абмалаціць? Многія сяляне рыхтуюць цапы.

Сяляне адгукнуліся на заклік весці ўручную ўборку ўраджаю на падмочаных участках. Так, у калгасе імя Калініна Ганцавіцкага раёна калгаснікі ўручную ўбралі звыш 100 гектараў збожжа. Ручная праца шырока выкарыстоўваецца і ў іншых раёнах краіны, што спараджае далёка не лепшы псіхалагічны настрой у вяскоўцаў, хоць без кос і сярпоў у многіх месцах і не абысціся.

Нарэшце, спецыфічны настрой на вёсцы выкліканы вяртаннем шэфаў. Так, прэзідэнт прыняў прэм'ер-міністра Сяргея Лінга і звярнуў яго ўвагу на працу па арганізацыі шэфскай дапамогі з боку гарадоў, буйных прадпрыемстваў і ўказаў на неабходнасць выпрацоўкі сістэмы замацавання і падтрымкі вёскі з боку гараджан. Ва ўмовах, калі паўстала пытанне аб забеспячэнні харчовай бяспекі, звяртанне да горада можна зразумець. Але хто пакрые выдаткі шэфаў, калі лічыць, што прадпрыемствы працуюць ва ўмовах рынку ці пераходу да яго?

Колькі будзе сабрана зерня любым коштам, стане вядома праз 2—3 тыдні. Але "бойка за ўраджай" пры ўзмоцненым яе фінансаванні і крэдытаванні ўжо сёння мае не толькі станоўчыя, але і адмоўныя эканамічныя наступствы сацыяльнага зместу. Эксперты лічаць, што валютны крызіс беларускага рубля не ў апошнюю чаргу звязаны з напампаваннем грашыма аграрна-прамысловага комплексу рэспублікі.

**Слышали?**

## Израильские пограничники депортировали из Израиля белорусскую теннисистку Яну Соколенко

Белорусская теннисистка Яна Соколенко была на днях депортирована из Израиля. 6 августа, прилетев в эту страну для выступлений за клуб "Маккаби-Цафон" из Хайфы, она была задержана в тель-авивском аэропорту Бен-Гуриона сотрудницей местного МВД Натальей Дудко. После личного досмотра и обыска багажа Соколенко была депортирована из страны.

Теннисистку обвинили в том, что у нее якобы нет денег на пребывание в Израиле и обратного билета в Минск и что она приехала в эту страну заниматься проституцией. Никакие объяснения спортсменки, которой через три дня исполнялось 20 лет, эффекта не возымели. Ей не было позволено связаться ни с белорусским посольством, ни с представителем клуба "Маккаби-Цафон", безрезультатно прождавшим Соколенко в зале ожидания аэропорта пять часов. Попытки белоруски оспорить решение о депортации натолкнулись на угрозы лишить ее свободы на неопределенный срок. Вместе с Соколенко была депортирована еще одна девушка, прилетевшая в Тель-Авив этим же рейсом. К слову, Яна Соколенко прежде уже выступала в Израиле и нынешняя ее поездка была уже третьей в эту страну. Инцидент получил широкую огласку и перерос в международный скандал. Президент Белорусской теннисной ассоциации Семен Каган потребовал от израильского МВД выплаты нанесенного теннисистке морального и материального ущерба. В случае необходимости БТА намерена обратиться в суд. Дело Соколенко находится под личным контролем руководителей визового департамента МВД и Министерства по делам абсорбции Израиля. По сообщению израильской газеты "Вести", русскоязычная фракция в израильском парламенте (кнессете) намерена подать в суд на МВД за регулярные издевательства над прибывающими в Израиль гражданами СНГ. По имеющейся информации, о случившемся стало известно и президенту белорусского Национального олимпийского комитета Александру Лукашенко.

Как заявил корреспонденту БелаПАН второй секретарь посольства Беларуси в Израиле Максим Рыженков, часть вины за случившееся ложится на теннисный клуб, который никого не поставил в известность о прилете Соколенко. По его словам, во многих мужчинах, прибывающих в Израиль из СНГ, пограничники видят нелегальных рабочих, а в женщинах — проституток.

**Дмитрий ВЛАСОВ, БелаПАН.**

**Увага: конкурс!**

## Я маю права

Дарагія юныя грамадзяне Беларусі!

Сёлета сусветная супольнасць адзначае значную дату сваёй гісторыі — 50 гадоў з дня прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека".

З гэтай нагоды Беларускі Хельсінкскі камітэт абвяшчае літаратурны конкурс "Я маю права", да ўдзелу ў якім запрашаюцца вучні 8—11 класаў.

Конкурсныя працы павінны адлюстроўваць Ваша разуменне ролі "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" як для чалавечай цывілізацыі наогул, так і для нашай незалежнай дзяржавы, для Вас асабіста. Вы будзеце жыць у новай Беларусі. Якой Вы бачыце сваю радзіму ў XXI стагоддзі? Што Вы самі паспелі ці мяркуеце зрабіць для ператварэння Беларусі ў дэмакратычную еўрапейскую краіну з развітай нацыянальнай культурай і высокім узроўнем жыцця, дзе будуць забяспечаныя ўсе правы чалавека? (Калі Вы не знаёмыя з тэкстам "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, звяртайцеся ў бібліятэкі або непасрэдна ў Беларускі Хельсінкскі камітэт.)

Для сваёй конкурснай працы Вы можаце абраць розныя жанры: мастацкае апавяданне, дакументальны нарыс ці замалёўку, публіцыстычны рэпартаж пра канкрэтную падзею ці нават паэтычны твор. Адзіная ўмова: Ваша праца павінна быць напісаная па-беларуску — на мове, ад будучыні якой залежыць і будучыня нашай дзяржавы.

Конкурсныя працы дасылаюцца ў двух экземплярах надрукаванымі на машынцы, набранымі на камп'ютэры або ў рукапісе.

Тэрмін дасылання — да 1 лістапада 1998 г. (па паштовым штэмпелі). Апрача дакладнага адраса, просім паведамляць і нумар Вашага тэлефона.

Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы, вызначыць адно першае, два другія і тры трэція месцы.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. Лепшыя творы будуць апублікаваныя.

Конкурсныя працы дасылаць на адрас: **Беларускі Хельсінкскі камітэт, вул. К.Лібкнехта, 68, пакой 1201, Мінск 220036 — з паметкай: НА КОНКУРС.**

**Тэл. для даведак (017) 222-48-00.**

**Смотрите, кто идет...**

## Александр Каршакевич займет место Спартака Мироновича

На днях из белорусской Федерации гандбола в Министерство спорта и туризма ушло ходатайство об утверждении в должности исполняющего обязанности главного тренера мужской национальной сборной Александра Каршакевича, олимпийского чемпиона Сеула. Напомним, что вакансия на этом посту освободилась месяц назад, когда мэтр белорусского гандбола Спартак Миронович из-за ухудшения состояния здоровья и планируемой в ближайшее время операции подал в отставку. Правда, согласился помогать команде в качестве консультанта. Он и рекомендовал кандидатуру своего воспитанника, которая была единогласно поддержана на Совете федерации. До этого 39-летний Каршакевич руководил вторым составом минского СКА.

Между тем уже совсем скоро, а точнее, 23 сентября нашей сборной предстоит старт в отборочном турнире чемпионата мира-99. В компании с командами Хорватии, Словении и Австрии белорусам предстоит непростая задача по завоеванию единственной путевки в финальный турнир.

**Дмитрий ЕРМАК.**

**За кратамі**

## У месцах зняволення Гродзеншчыны асуджаныя не маюць работы, хварэюць на сухоты і СНІД

Сёння на Гродзеншчыне "працуюць" тры ўстановы, куды змяшчаюцца зняволеныя, — турма ў абласным цэнтры, Ваўкавыская калонія строгага рэжыму і Навагрудскі лячэбна-працоўны прафілакторый. На тэрыторыі былой ваеннай базы Гезгалы таксама ўтварылі спецкамендатуру і там плануюць мець папраўча-працоўны аб'ект.

Плошчаў катастрафічна не хапае. У Гродзенскім следчым ізалятары чакаюць судовага рашэння свайго лёсу каля 600 затрыманых. А месц усяго разлічана на 170 чалавек. Нястача грашовых сродкаў адбіваецца на харчаванні. Гродзенская турма завінавацілася за харчы 273 мільёны рублёў. Гэта пры тым, што кошт харчавання зняволенага ў турме ў суткі роўны 23.500 рублям. Калі чалавек працуе, то крыху больш — 28.134.

Цяпер знайсці работу на волі няпроста, так што казаць пра турмы. У Ваўкавыскай калоніі строгага рэжыму сядзіць 3650 чалавек. Працуе з гэтай колькасці не больш тысячы. Установа разлічана на 2700 асуджаных. За мінулыя паўгода на іх утрыманне дзяржава выдаткавала чатыры мільярды рублёў. Адпрацаваны толькі мільярд.

Калі няма занятку, то расце злачыннасць. Хаця крыху дзіўна ўспрымаецца на слых: злачыннасць у турме. Па звестках УУС аблвыканкама, сёлета папярэджана каля ста спроб парушэнняў. Назіраліся чатыры ўцёкі. У зняволеных канфіскавана амаль дваццаць мільёнаў разліковых білетаў Беларусі, звыш трох тысяч — расійскіх, больш тысячы долараў. Зняволеныя не паспелі ўжыць 24 літры гарэлачных вырабаў і без малога кілаграма наркотыкаў. Хадавым таварам з'яўляецца і зброя. Чым не знакаміты гродзенскі рынак? А калі сур'ёзна, то якім чынам валюта, наркотыкі, зброя трапляюць за вароты ўстаноў, якія вельмі пільна ахоўваюцца?

Зняволеныя пакутуюць на хваробы. Найбольш "папулярныя" — сухоты. Сем чалавек — носьбіты СНІДу.

**Антон ЛАБОВІЧ.**

Гродна.

**Стоп-кадр**



*На колхозном току.*

**Фото Романа КОБЯКА.**

**Ведай нашых!**

## Па Маскве будуць курсіраваць беларускія тралейбусы

У Маскве пры ўдзеле ўрада расійскай сталіцы і Мінскага гарвыканкама адбыліся перагаворы паміж кіраўнікамі мінскіх і маскоўскіх прадпрыемстваў. Беларускі бок на іх прадстаўлялі дырэктары ВА "БелаўтаМАЗ", Мінскага завода колавых цягачоў, канцэрна "Амкадор", мінскіх маторнага і электратэхнічнага заводаў, ВА "Белкамунмаш", НВА "Машынабудаванне і гідраўліка".

Як паведамілі БелТА ў пасольстве нашай краіны ў Расіі, удзельнікі перагавораў разгледзелі вынікі двухбаковага супрацоўніцтва і вырашылі яшчэ ў большай ступені прыцягваць на конкурснай аснове беларускія прадпрыемствы пры фарміраванні і размяшчэнні заказу на вытворчасць і пастаўку рухавікоў для ЗІЛа, дарожна-будаўнічай камунальнай тэхнікі — тралейбусаў і кар'ерных самазвалаў — для Масквы.

Прынята рашэнне і аб заснаванні сумеснай лізінгавай кампаніі, а таксама арганізацыі пастаяннай выстаўкі прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў у сталіцы Расіі. Акрамя таго, МАЗ аб'яўлены афіцыйным пастаўшчыком аўтатранспарту для маскоўскіх будаўнічых арганізацый. Падпісана пагадненне аб далейшай пастаўцы ў Маскву беларускіх тралейбусаў ВА "Белкамунмаш".

**БелТА.**

**Зеркало**

## НАТО требует войск и самолетов для интервенции в Косово

**"Паис" (Испания):**

"План интервенции Североатлантического альянса в Косово готов. Он исходит из развертывания максимум 60 тыс. солдат в случае, если придется оккупировать территорию. Сейчас начинаются консультации. НАТО хочет знать, какой вклад внесут те или иные страны-участницы.

Кремль продолжает сопротивляться вмешательству НАТО в Косово, считая этот кризис внутренним делом Югославии. У этого тезиса есть и другие сторонники. В самом НАТО некоторые страны возражают против одностороннего вмешательства и требуют получения мандата от Совета Безопасности ООН. Кроме того, США, кажется, не намерены омрачать предстоящую российско-американскую встречу в верхах спором по этому вопросу.

Разработанные планы имеют множество вариантов, но основных направлений три.

Первый план: удары с воздуха по сербской территории в ответ на эскалацию насилия в Косово. Бомбардировке подвергнутся системы ПВО и военные объекты.

Второй план: широкомасштабные операции с воздуха, в том числе удары по экономическим целям, развертывание сухопутных войск.

Третий план: развертывание сил по обеспечению мира по типу использовавшихся в Боснии и Герцеговине после Дейтонских мирных соглашений; такие силы призваны гарантировать выполнение соглашения всеми сторонами".

## Ислам талибов распространяется на весь Афганистан

**"Монд" (Франция):**

"Падение основных бастионов вооруженной оппозиции талибам позволяет последним установить контроль над основной частью Афганистана. Через 4 года после неожиданного появления на военно-политической арене "студенты богословия", эти "вооруженные монахи ислама" теперь способны установить самый фундаменталистский режим в арабо-мусульманском мире.

Эта победа существенным образом повлияет на эту страну, разрушенную 20 годами войны, но прорыв фундаменталистов будет иметь и существенные региональные и экономические последствия.

Афганистан обретает большую стратегическую и экономическую ценность, что объясняется большими нефтегазовыми запасами Туркмении. Американские компании участвуют в проектах строительства трубопроводов, которые должны позволить доставить через афганскую территорию нефть и газ к берегам Индийского океана. Для осуществления этих проектов надо, чтобы в Афганистане царил мир. Москва подозревает, что с этой целью Вашингтон продолжает поддерживать талибов, воспринимаемых в качестве гарантов внутренней стабильности Афганистана. Россия озабочена "фундаменталистской заразой", появляющейся у ворот СНГ".

## Поездка по следам леди Ди

**"Стампа" (Италия):**

"Поездку в черном "мерседесе" от гостиницы "Ритц" до тоннеля под мостом Альма предлагает одна парижская гостиница по случаю первой годовщины смерти принцессы Дианы. Эта дата будет отмечаться 31 августа.

Такой операцией гостиница намерена привлечь клиентов, которые продолжают проявлять интерес к тем драматическим событиям.

Идея пришла в голову управляющему гостиницей "Одеон" Эмилю Касиари. Он говорит, что не боится критики. Инициатива не имеет коммерческой подоплеки. Постояльцы гостиницы смогут совершить поездку бесплатно, а доходы, полученные от других клиентов (тур стоит 150 франков), будут перечислены в Фонд Дианы.

Поездка рассчитана примерно на час".

## Российские банки прекратили предоставлять друг другу кредиты

**"Вашингтон пост" (США):**

"Появился новый признак ухудшения финансового кризиса в стране: российские банки прекратили предоставлять друг другу кредиты, некоторые не способны обслуживать свои внешние заимствования. Об этом заявляют официальные представители российских банков.

Такое развитие событий, а также сообщения о том, что правительство начало ограничивать банки в продаже рублей на доллары, подорвали позиции финансовых рынков в России и других развивающихся рынков, породили спекуляции о том, что Москва, вероятно, находится на пороге девальвации рубля или принятия каких-то других радикальных решений.

Многочисленные факторы в последние дни привели в России к падению курсов акций и ценных бумаг. Это породило страх перед возможной панической продажей рублей иностранными и национальными инвесторами, что способно выкачать скромные резервы Центрального банка. Вынужденная девальвация рубля — кошмар, которого стремятся избежать МВФ и администрация Клинтона, поскольку такой шаг подорвет позиции реформаторского правительства Ельцина и усилит экстремистские силы".

Народная Воля
19 ЖНІЎНЯ 1998 г.

# БРОШЕННЫЙ

***Когда-то в детстве я смотрела фильм про ослепшую художницу. Картинки того фильма до сих пор всплывают из далекого детства, приводя меня в состояние сковывающего, леденящего ужаса. Ребенком на вопрос: "Чего ты больше всего на свете боишься?" — я по-детски отвечала: темноты, жучков-паучков-гусениц, ведьм и маньяков. Произнести вслух слово "ослепнуть" я боялась. Сразу невольно представляла себя на месте той художницы.***

***Первый раз в жизни, выслушивая чужие беды, я не могла сдержать слез. Жена народного артиста Беларуси Павла Кормунина, рассказывая мне все это, не плакала. У нее, наверное, уже не осталось слез. Они высохли тогда, когда ослеп ее муж...***

***Познакомившись с ослепшим известным артистом Купаловского театра Павлом Васильевичем Кормуниным, я поняла, что есть вещи пострашнее физической слепоты. Есть еще слепота духовная. Она в первую очередь бьет не по ее носителям, а по тем, кто с ней соприкасается.***



## Человеческие шлаки

Никому не нужен пожилой человек. А слепой актер — и подавно. И это, как ни печально, — аксиома.

Какие бы аплодисменты ни звучали в его адрес, как бы его ни уважали в молодости, как бы он ни был красив — все это теперь не имеет никакого значения. Как только его голова покрылась сединой, с лица сошла былая красота, а глаза ослепли, он остался один...

Пять лет назад он ушел из театра. За все эти годы его из актеров-коллег мало кто навещал.

— Уж сколько людей неоднократно перебывало у нас в доме, когда он был на сцене! — вспоминает его жена Раиса Порфентьевна. — А сейчас только один Виктор Манаев заходит. Остальные, став народными и заслуженными, носы позадирали...

**Стены театра обычно долго помнят своих актеров. Особенно своих "звезд". Народный артист Беларуси Павел Кормунин отдал Мельпомене тридцать лет жизни. А в театре на стене нет даже его фотографии.**

**— Он же не умер! Живой еще! — восклицает Раиса Порфентьевна.**

Новый директор Купаловского театра Геннадий Давыдько звал Кормунина, уже совершенно ослепшего, на сцену. Там для него в спектакле "Страсці па Аўдзею" специальная роль есть. Но он отказался. Наверное, не может забыть, как его выгнали, а точнее — отправили на заслуженный отдых.

— Плохой хозяин собаку, которая прослужила ему много лет верно и преданно, так не выгоняет на улицу, как отправили на пенсию Павла Васильевича, — делится его жена. — Дело в том, что ему 12 мая надо было играть в спектакле. Перед этим он был на даче. Вдруг прибегает к нам на огород Маша Захаревич и спрашивает: "Рая, а почему Паша здесь, а не в Минске?" Я говорю: "Как почему? Спектакль-то у него только завтра. Вот завтра и поедет". Выяснилось, что спектакль был именно в этот вечер. Павел, к тому времени уже еле видевший, побрился и поехал в Минск, отыграл роль. На следующий день мы с ним пошли в Министерство культуры, справку какую-то брать. Там он узнал, что уволен из театра был аж с первого мая! Представляете? И никто ничего не сказал! Я пошла к директору театра. "Как вы могли так поступить?" — спрашиваю. Он ответил, что денег нет и оплатить этот спектакль пока он не сможет. Деньги для меня были не главным. Я не могла понять: неужели ему трудно было хотя бы со своего кармана достать 10—15 рублей, купить три цветочка, выйти на сцену и сказать, что сегодня Павел Васильевич Кормунин играет свой последний, прощальный спектакль. Это было бы по-человечески. А так...

Станюте организовали шикарный прощальный вечер, банкет. Ей говорили теплые слова, дарили холодильники, ковры, хрусталь. Они ж как два мотылька в театре были. Вместе порхали... Если не было денег на шикарный вечер, можно было купить пару ящиков водки, а на закуску я бы пенсию свою всю до копейки отдала. Неужели он не заслужил, чтобы его проводили красиво, с почестями, как всех??? Этими рассуждениями я проела плешь Валерию Раевскому и он, в конце концов, понял, что в театре допустили непоправимую ошибку. Дабы как-то смягчить положение, решили в театре отметить его семидесятипятилетие.

Я очень благодарна актерам. Когда Кормунин отыграл юбилейный спектакль и спускался со сцены, на нем аж вся одежда тряслась, так сильно он волновался. Актеры под ноги бросали ему букеты живых цветов, пели песни, поднимали тосты. Подарков не было. Да ему они, собственно, и не нужны были. Единственное, жена какого-то спонсора сшила мне и Павлу Васильевичу костюмы. Актеры на вечер пришли все. Из Министерства культуры не было никого...

**Придя домой, он сказал: "Я туда, Рая, и ногой больше не ступлю..." Я не могла видеть его слезы...**

Дальше — больше. Прошлым летом Кормунину сделали операцию на глаза, после которой он совершенно ослеп. Ему назначили пенсию первой категории. По идее, инвалидам первой группы лекарства полагаются бесплатные. Но Раиса Порфентьевна тех бесплатных лекарств никогда не видела. Даже супердорогие глазные капли покупала за полную стоимость. **В скором времени перед женой Кормунина встал суровый выбор: покупать лекарства или еду. Когда зрение совсем пропало, ему стали капать только капельки, снимающие боль. Медикаменты помогали слабо, боль практически не проходила. Не в силах больше наблюдать нечеловеческие муки любимого мужа, она пошла к заведующей отделением одной из столичных больниц. Преклонив колени, объясняла, что не так уж много стариков — народных артистов осталось, положите его, ради всего святого, в больницу, облегчите страдания. Несмотря на то, что свободных мест в больнице не было даже для престарелых артистов, его положили. В коридоре. Что ж, он человек негордый, может и там...** Через четыре дня заведующая начала проявлять беспокойство. Но Раиса Порфентьевна ее как сумела успокоила: мол, не надо, не мучайтесь, пусть все так и остается...

Целое лето Павел Васильевич провел с женой на даче. Сейчас ему снова стало хуже. Но Раиса Порфентьевна не теряет надежды — в конце августа ему дают путевку в санаторий "Родон". Она как сопровождающая едет с ним. Значит, тоже немного подлечится и отдохнет...

Я всегда полагала, что в Министерстве культуры должен быть специальный отдел, занимающийся судьбами стариков: актеров, певцов, композиторов и всех прочих творческих личностей. Как приятно было бы им всем знать, что их по-прежнему любят, помнят, ценят! Люди умирали бы счастливыми... По словам Раисы Парфентьевны, чиновники из Министерства культуры за пять лет ни разу не поинтересовались, жив ли Кормунин вообще. Правда, к Новому году от Министерства он получает великий дар — палочку колбасы и пакет чая. А чтоб лишний раз одарить Павла Васильевича вниманием, прикосновением руки или ласковым словом... Об этом ведь не пойдешь, не скажешь, не попросишь...

— Однажды дочка моя, Люда, в сердцах пообещала, что за месяц-полтора до восьмидесятилетнего юбилея отца она непременно сходит на прием к министру культуры. Может, он порадует отца, хоть фильм какой-нибудь с его участием по телевизору покажет... А самой идти... Не могу я, неудобно мне клянчить...

Несмотря на все трудности, за счет какой-то внутренней энергии Раиса Порфентьевна не сдается. Почти пять лет она проработала в театральном кафе, помогала повару. Она, жена народного артиста, не гнушалась пойти помыть посуду, кому-то что-то поднести. Она работала ради еды. Приносила суп, кашу. Так они и две их собаки долгое время и кормились. Его и ее пенсия оставались практически нетронутыми. Большую часть денег Раиса Порфентьевна меняла на доллары. За пять лет она насобирала тысячу сто американских рублей. Пятьсот взяла взаймы, и внучка Настенька, получив права, купила машину. Она нужна была им им как воздух. Слепого деда безумно тяжело было возить на дачу. Теперь для них началась королевская жизнь. Но...

Однажды утром Раисе Парфентьевне позвонил домоуправ и поинтересовался, почему их старенький "гольф" стоит на кирпичах. Не рассчитавшись с прежним долгом, они не знали, где взять деньги на новые четыре колеса и диски...

...Однажды им позвонил сын Павла Васильевича от первого брака. Его первые слова были: "Папа умер?".

— Хорошо, что он не слышал этих слов, — говорит Раиса Порфентьевна. — Я в двух словах рассказала Андрею про наши дела (*он живет в другом городе, отца практически не навещает.* - **М.К.**).

Помолчав, она добавила:

— Он будет жить столько, сколько буду жить я. Умереть я ему не позволю.

## История любви

...Раиса почти шесть лет как развелась с первым мужем. Воспитывала дочь Людмилу, работала закройщицей на киностудии. Павел приехал в Минск один, без семьи: вначале нужно было разведать, как здесь пойдут дела, а потом уж семью перевозить. Время от времени заходил в мастерскую, где работала Раиса. Некоторое время спустя он привез жену и сына, им дали двухкомнатную квартиру. А потом Кормунин перешел жить к Раисе. Вместе они прожили около года. За это время он трижды подавал на развод.

— Его жена, как я потом узнала от судьи, — рассказывает Раиса Порфентьевна, — заявила, что, если он насовсем уйдет ко мне, она умрет вместе с сыном. Павлу пришлось к своей семье вернуться. Пожив там какое-то время, он понял, что там как-то все не так, ничего не получается, и вернулся к нам. Когда Павел подал на развод еще раз, его жена пошла в райком партии. И его поставили перед жестким выбором: или вернешься и будешь жить в своей семье или клади партбилет. Он тотчас же положил на стол красную книжечку...

Утром я пошла в райком партии. Пришла к председателю комиссии, отобравшей билет, попросила найти минуту и выслушать. Вот что я ей рассказала.

Со своим прежним мужем я прожила семь лет. Когда мы с ним расходились, он не только до полусмерти избил меня, но и изрезал. Натерпелась от него и дочка. Ему дали три года условно и выселили без предоставления жилплощади. Мой муж вывез из квартиры все, что смог. Остались только голые стены да портрет Сталина...

Потом появился Кормунин. Он купил Людочке куклу, смастерил кучу других затейливых деревянных игрушек, сделал шкафчики. Помню, я приходила с работы, а он уже и обед приготовит, и посуду вымоет. Кухня у нас была общая и соседи удивлялись: "Артист, и чтоб такой был!.."

Каждый день до двух-трех часов ночи я помогала ему учить белорусский язык. Он-то по национальности русский, а играть все время приходилось на белорусском. И про него позже стали говорить, что он "мову нібыта з крыніцы чэрпае".

В общем, ночами я с ним работала над ролями, а после репетиций он приходил домой и занимался моим ребенком. Он был ей не отчимом, а самым любящим отцом. Она начала звать его папой. При этом он никогда не забывал про то, что у него есть еще и сын. Постоянно интересовался его здоровьем, учебой, давал деньги.

Когда Павел пришел ко мне жить, мне было больно и стыдно на него смотреть. У него не было ни нормальной рубашки, ни костюма, не говоря уже про нижнее белье... Чтоб так человек ходил!.. Все это я тут же выбросила и, хоть по тем временам получала небольшие деньги, взяла ему напрокат костюм, рубашку, макинтош, купила белье...

Выслушав мой рассказ, женщина в райкоме, утерев слезу, сказала, чтобы завтра Кормунин принес заявление на восстановление партбилета.

После этого он снова подал в суд и благополучно развелся. Бывшей жене и сыну он оставил двухкомнатную квартиру. А сам, не обремененный чемоданами, пришел ко мне. Пришел в том, что я ему купила...

А в шестьдесят три в его жизни появилась другая женщина. Раиса Порфентьевна отпустила его без слез и скандалов. Но он все равно вернулся. Со слезами на глазах. Вернулся навсегда.

## "Я прощаю им..."

Наверное, не ошибусь, если скажу, что сегодня Павел Кормунин — единственный актер Беларуси, прошедший войну не с броней в кармане, а с винтовкой в руках. Он воевал в составе Первого Украинского фронта девятого отдельного полка. Война — это самое страшное, что было в его жизни. Долгое время снились кошмары. Теперь, живя преимущественно эпизодами из прошлого, он старается вообще вычеркнуть то время из своей памяти:

— Что было, то прошло...

А вот театр забыть не может. И не хочет. Он живет им до сих пор. Однако рассказывать о том, какие страсти там кипели в партийные времена, категорически отказывается. Хотя знает.

— Пусть все останется со мной. Да и кому это сегодня интересно?..

Точкой отсчета лучшего периода своей жизни Павел Васильевич считает знакомство с Раисой Парфентьевной. Он ей бесконечно благодарен за то, что в самые тяжкие моменты она ни на секунду не оставляла его одного. Всегда была рядом. Все могла простить и понять.

В пору расцвета своего творчества о будущем он не сильно задумывался. Жил, как мотылек. Одним ярким днем. О старости никогда не думал.

Он был знаменит. Но с помощью своей известности никогда не решал каких-то личных проблем. Даже если об этом слезно молила жена, как было в случае, когда его приемная дочь Людмила не могла устроиться на работу в театр (*она тоже актриса.* — **М.К.**). В этом он был принципиален до конца...

По натуре Павел Кормунин скромный, спокойный человек. Никогда не умел жаловаться. Когда его уволили из театра, он заплакал. За последние десять лет это была единственная прилюдная слабость. Душа Кормунина не вынесла такого плевка и предательства...

Я спросила, скучает ли он теперь по театру. Закрыв глаза, он ответил, что нет:

— Я теперь просто отдыхаю от него. Все что мог, я ему отдал. К тому же я здорово наигрался, пора и отдохнуть. К театру претензий не имею. И уже от него ничего не жду. **Я прощаю им...** Понимаю, что кроме меня у них ведь и так забот хватает. Да и чего, собственно, обо мне думать? Не такая я теперь и величина. Живу пока, ну и ладно...

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото Евгения КОКТЫША.**

Спадчына

## Беларусь ушаноўвае памяць Адама Міцкевіча

Вялікаму польскаму паэту Адаму Міцкевічу, які нарадзіўся на нашай зямлі і ўсё жыццё называў Беларусь сваёй радзімай, прысвечана і выстаўка, што адкрылася ў Нацыянальнай бібліятэцы.

Фатаграфіі з архіва варшаўскага Музея літаратуры імя Адама Міцкевіча, шматлікія малюнкі, прадстаўленыя на выстаўцы, цудоўна ілюструюць жыццё і творчасць класіка, 200-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначаем. Увазе наведвальнікаў прапанавана біяграфія паэта, выкладзеная на экспазіцыйных стэндах. Арганічна ўпісаліся ў кампазіцыю выстаўкі і работы мастака-аматара Аляксандра Зубрыцкага, аб'ядналыя ў цыкл "Беларусь міцкевіцкая". Іх аўтар — урач па прафесіі — неаднаразова бываў у месцах, звязаных з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча.

Свае намаганні па арганізацыі гэтай выстаўкі аб'ядналі Польскі інстытут у Мінску, варшаўскі Музей літаратуры імя Адама Міцкевіча і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Сярод тых, хто прыйшоў у дзень вернісажу сказаць цёплыя словы ў гонар паэта, былі Часовы Паверааны ў справах Рэспублікі Польшча ў Беларусі Пётр Жахоўскі, прадстаўнікі дзяржавы, вядомыя вучоныя, дзеячы культуры і мастацтва.

**Аксана ПІВАВАР.**

Чулі?

## У 1998 годзе на вучобу ў ваенныя акадэміі Расіі плануецца накіраваць каля 50 беларускіх афіцэраў

У гэтым годзе на вучобу ў розныя ваенныя акадэміі Расійскай Федэрацыі плануецца адправіць 48 беларускіх афіцэраў. Аб гэтым паведаміла газета Міністэрства абароны рэспублікі "Во славу Родины".

Вядома, у прыватнасці, што 14 афіцэраў стануць слухачамі Ваенна-паветранай акадэміі імя Жукоўскага, пяцёра — Ваенна-медыцынскай акадэміі, двое — Ваеннай акадэміі хімічнай абароны.

**Алег САКАЛОЎ.**

## Камуністычная партыя Беларусі не будзе ўдзельнічаць у Кангрэсе народна-патрыятычных сіл

Камуністычная партыя Беларусі не будзе ўдзельнічаць у Кангрэсе народна-патрыятычных сіл, правядзенне якога запланавана на пачатак верасня. Такое рашэнне прыняў Цэнтральны камітэт партыі на сваім апошнім бюро.

Нагадаем, што з ініцыятывай стварэння блоку НПС выступілі ліберал-дэмакраты. У сваю чаргу, камуністы вырашылі актывізаваць намаганні па стварэнні блоку левых сіл. Чакаецца, што ў яго, акрамя КПБ, войдуць Беларуская патрыятычная партыя, Славянскі Сабор "Белая Русь", Рух за сацыяльны прагрэс і справядлівасць, а таксама шэраг грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў, якія падтрымліваюць Хартыю-98.

Што да ўдзелу рэгіянальных арганізацый КПБ у абласных канферэнцыях НПС, то, па словах кіраўніка спраў ЦК КПБ Леаніда Школьнікава, камуністы будуць прысутнічаць на іх у якасці назіральнікаў. Л.Школьнікаў таксама не выключыў магчымасці далучэння да блоку левых сіл і Ліберальна-дэмакратычнай партыі ў выпадку, калі яна падтрымае Хартыю-98.

**Даведка БелаПАН.** Хартыя-98 была прынята ўдзельнікамі ўрачыстага сходу, прысвечанага 100-годдзю першага з'езду РСДРП 15 сакавіка гэтага года. Асноўныя палажэнні хартыі: падтрымка палітычнага курсу, праводзімага прэзідэнтам Беларусі; стварэнне аднаўленага саюза былых савецкіх рэспублік і "пабудова сацыяльна справядлівага грамадства".

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Крымінагенная сітуацыя на сталічных вуліцах летам абвастрылася

Амаль 350 тысяч адміністрацыйных правапарушэнняў зафіксавалі работнікі сталічнай міліцыі з пачатку гэтага года. Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ў ГУУС Мінгарвыканкама, чвэрць правінnasцей звязана з парушэннем антыалкагольнага заканадаўства.

Статыстыка сведчыць, што ў апошнія два месяцы абстаноўка на вуліцах горада абвастрылася. Калі па выніках пяці месяцаў рост "вулічных" злачынстваў адзначаўся толькі ў Заводскім раёне, то цяпер гэта характэрна і для Фрунзенскага, Кастрычніцкага і Савецкага раёнаў сталіцы.

За паўгода супрацоўнікі міліцыі забяспечвалі правапарадак пры правядзенні звыш двухсот масавых мерапрыемстваў з агульнай колькасцю ўдзельнікаў амаль 395 тысяч чалавек.

**БелТА.**

## Адбылася рабочая нарада па падрыхтоўцы і правядзенні ў Мінску Міжнароднага кангрэса па дэмаграфічных праблемах рэспублікі

У мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры адбылася рабочая нарада ініцыятыўнай групы па падрыхтоўцы і правядзенні ў Мінску міжнароднага кангрэса "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі", намечанага на 19—23 сакавіка 1999 года.

Вёў пасяджэнне старшыня аргкамітэта маючага адбыцца кангрэса віцэ-прэзідэнт Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі экалогіі прафесар Міхаіл Цяўлоўскі. Быў вызначаны круг заснавальнікаў кангрэса: Беларускі рэспубліканскі фонд "Абарона жыцця ля яго крыніц і генетычнага фонду народа", Міжнародная акадэмія экалогіі, міністэрствы аховы здароўя, адукацыі, працы, статыстыкі і аналізу, Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносінаў, а таксама сінкліты праваслаўнай, каталіцкай і грэка-каталіцкай канфесій Беларусі.

Папярэдне быў акрэслены круг праблем, па якіх будуць заслуханы даклады і праведзены абмеркаванні: шляхі экалагічнага ачышчэння і аздараўлення насельніцтва; прапановы па ўдасканаленні прававой асновы дэмаграфічнай палітыкі рэспублікі; медыцынскія, юрыдычныя і маральныя праблемы, звязаныя з абортамі; магчымасці адукацыі, культуры і мастацтва ў пераадоленні дэмаграфічных праблем; неабходнасць стварэння службы планавання сям'і; метады барацьбы з алкагалізацыяй і наркатызацыяй грамадства.

Скліканне форуму дэмографаў, эколагаў, медыкаў, антраполагаў, спецыялістаў іншых гуманітарных спецыяльнасцей даўно наспела, лічыць член аргкамітэта кангрэса, доктар біялагічных навук Аляксей Мікуліч. Нагадаўшы пра тое, што працэс дэпапуляцыі насельніцтва Беларусі, пры якім смяротнасць перавышае нараджальнасць, ідзе ўжо з 1993 года, ён прывёў іншыя малавядомыя лічбы, якія сведчаць аб злабадзённасці дэмаграфічных праблем. Па яго даных, ужо з канца ці нават сярэдзіны 70-х гадоў у сельскіх раёнах рэспублікі смяротнасць перавышала нараджальнасць, гэта значыць — натуральны прырост быў адмоўным. Так, па Віцебскай вобласці ў 1979 годзе на 10.000 чалавек прыпадала ў сярэднім 98 нараджэнняў і 164 смерці. Ужо тады навуковыя экспедыцыі адзначалі павелічэнне частаты "экалагічных" захворванняў — скурных і лёгачных, што з'явілася вынікам шырокага прымянення мінеральных угнаенняў, інсектыцыдаў, дэфаліянтаў, гербіцыдаў, сродкаў для мыцця. Пры агульным зніжэнні нараджальнасці, адзначыў А.Мікуліч, няўхільна расце і дзіцячая смяротнасць. Так, у 1992 годзе на 10.000 насельніцтва Гомельскай вобласці перынатальная смяротнасць (г.з. у першы тыдзень жыцця) складала 113 выпадкаў, у 1995-м — ужо 122. Расла і неанатальная (у першы месяц жыцця) смяротнасць нованароджаных. Па рэспубліцы яна ўзрасла за тыя ж 4 гады на 9,6 працэнта: з 75 смярцей да 83 на 10.000 чалавек насельніцтва.

Дэмаграфічныя праблемы, падкрэсліў доктар А.Мікуліч, не з'яўляюцца чыста медыцынскімі, яны напрамую звязаны з жыццём усяго грамадства. Напрыклад, з праблемай слабай напаўняльнасці школьных класаў, асабліва ў сельскіх школах; з нізкімі конкурсамі ў ВНУ і, як вынік, — з небяспекай зніжэння ўзроўню адукацыі; з недастатковым узнаўленнем працоўных рэсурсаў Беларусі і з павышэннем падатковай нагрузкі на працуючую частку насельніцтва.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

## Гасцінны Казёл

### Байка

*Аднойчы звяры ў Новы год*
*Сабралі незвычайны сход,*
*Каб выказаць жаданне жыць*
*у згодзе*
*І шкоды не рабіць прыродзе.*
*Дакладна ўсё занатавалі,*
*Да тэкста дружна ўсе*
*прыклалі*
*Хто лапу, хто капыта альбо*
*рог —*
*Ну, адным словам,*
*хто што змог.*
*Хвастамі ляпнулі Бабры,*
*Прыклаў і Шэры кіпцюры.*
*А потым на лужку, ля рэчкі,*
*Дзе пасвіліся гусі і авечкі,*
*Усе расселіся па чыну...*
*Але ўжо недзе праз гадзіну,*
*Калі па трэцяй асушылі,*
*Дык разам ўсе загаманілі.*
*Як толькі скончыў спіч Асёл,*
*Падняўся з-за стала Казёл.*
*— Мае шаноўныя калегі!*
*Я урачыста аб'яўляю,*
*Што ў свой казлятнік*
*запрашаю*
*Накіраваць прадстаўнікоў.*
*Я шчыра сябраваць гатоў*
*З усімі без абмежаванняў,*
*На гэты конт няма ваганняў!*
*Казлу паверылі,*
*прадстаўнікоў прыслалі.*
*Ды ў хуткім часе атрымалі*
*Такі густы казліны пах,*
*Што ахапіў усіх іх жах.*
*Яны звярнуліся да Казла,*
*Што для жыцця умоў няма!*
*А ён ў адказ яшчэ паддаў*
*І з амбасадаў ўсіх сагнаў.*
*Якая з гэтага мараль?*
*Казёл заўжды смярдзіць, на жаль.*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ.**
г.Слаўгарад.

Стоп-кадр



*Пранёсся ўраган (Мозырскі раён)*

Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, БелТА.

## На мінулым тыдні на мінскіх харчовых рынках зафіксаваны істотны рост цэн на шэраг важнейшых тавараў

На мінскіх харчовых рынках зафіксаваны новы цэнавы скачок. За мінулы тыдзень кошт, напрыклад, агуркоў вырас у сярэднім на 59 працэнтаў, мукі — на 16, апельсінаў — на 12, макаронных вырабаў — на 7, цукру і жывёльнага масла — на 6, імпартнага шакаладу — на 4, курынага мяса, круп, вараных каўбас і імпартных цыгарэт — на 3, алею і смятаны — на 2 працэнты.

Асноўнымі прычынамі падаражання з'яўляюцца новы віток росту безнаяўнага і наяўнага курсаў амерыканскага долара, а таксама сезонны фактар.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Наркаманаў і алкаголікаў у Светлагорску становіцца менш, але іх колькасць працягвае заставацца значнай

Упершыню за многія гады ў Светлагорску адзначаецца зніжэнне колькасці наркаманаў, па крайняй меры тых, хто знаходзіцца на ўліку ў мясцовым наркалагічным дыспансеры. На сёння зарэгістравана 564 наркаманы, тады як летась іх было на 26 чалавек больш. На 14 працэнтаў паменшылася і колькасць светлагорцаў, якія эпізадычна ўжываюць наркотыкі, — да 106 чалавек.

Скарацілася і колькасць алкаголікаў, праўда, усяго на 13 чалавек. Гэта невялікае зніжэнне, паколькі зарэгістраваных алкаголікаў у горадзе амаль 960 чалавек, ці кожны 80-ы жыхар.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Шасцёра жыхароў Брэстчыны ўдастоены ўрадавых узнагарод Рэспублікі Польшча

Шасцёра жыхароў Брэстчыны ўдастоены ўрадавых узнагарод Рэспублікі Польшча за ўдзел у абарончай вайне 1939 года. Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора 1921 года Брэст-Літоўск і заходняя частка БССР амаль на 20 гадоў адышлі да Польшчы, таму другая сусветная вайна закранула Брэстчыну — у тыя часы Палескае ваяводства — значна раней, чым астатняе насельніцтва Беларусі: нямецкія войскі штурмавалі Брэст-Літоўскую крэпасць яшчэ ў 1939 годзе!

У гонар Дня Войска Польскага ўзнагароды "За ўдзел у абарончай вайне 1939 года" атрымалі Міхаіл Карпей, Мікалай Клімушка, Сямён Дарашук, Уладзімір Калагрыў, Сцяпан Хоміч і Васіль Жаўтковіч. На ўрачыстай цырымоніі ўручэння, якая адбылася ў абласным тэатры драмы і музыкі, прысутнічалі Генеральны консул РП у Брэсце Томаш Кліманьскі, а таксама аташэ па ваенных пытаннях пасольства РП у РБ Мацей Валошык.

Акрамя таго, польскія ўлады хадайнічаюць аб устаноўцы мемарыяльнай дошкі на тэрыторыі комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой" у гонар воінаў польскага войска, якія абаранялі цытадэль у 1939 годзе.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Если вы решили съездить в Польшу...

С 18 августа 1998 года вступило в силу Распоряжение министра внутренних дел и администрации Республики Польша "По вопросу определения размера средств, необходимых для покрытия расходов, связанных с въездом, транзитом, нахождением и выездом иностранцев, пересекающих границу Республики Польша, а также конкретных принципов документирования наличия этих средств".

Документ предусматривает наличие средств у иностранцев, въезжающих на территорию Польши в следующих размерах:

— для лиц, старше 16 лет — из расчета 100 польских злотых на каждый день нахождения, но не менее 500 злотых;

— для лиц, младше 16 лет — из расчета 50 польских злотых на каждый день нахождения, но не менее 300 злотых;

— для участников экскурсий, летних лагерей отдыха и спорта, лиц, оплативших санаторно-курортное лечение либо иные расходы по пребыванию на территории Польши — из расчета 20 польских злотых на каждый день нахождения, но не менее 100 злотых;

— для прибывающих в Польшу менее чем на 3 дня иностранцев старше 16 лет — 300 польских злотых, младше 16 лет — 150 злотых;

— для транзитного проезда иностранцев старше 16 лет — 200 польских злотых, младше 16 лет — 100 злотых.

**Для справки:** 1 доллар США = 3,5 польского злотого.

